крок-два назад: глядзіць удалячынь і ўжо — у мой бок. Адчуў, што я сачу за ім? Я — да свае раллі. Яна гарыць ружовым бляскам — свая тут песня. Чую, як цяжка жывое дыхае. Ён? Нібыта конь змораны воз валачэ ўгору. І зноў не чую, не бачу нічога, акрамя раллі. Бягуць па небе воблакі, бяжыць і час. Дзень бяжыць. І сонейка схавалася. Спыніўся пэндзаль — думка прачнулася чужая: "Часу колькі?" Глянуў на гадзіннічак: дзве без пяці? Божа, так хутка нікне дзень! У дзве абед у калгаснай сталоўцы — у аўтобусе нас чакаюць сябры-мастакі. Гляджу на старога: як сказаць, што трэба ехаць? Як спыніць натхненне? Не магу адважыцца. Але і там — чакаюць? Ён мяне пачуў:

— Едзь, ■ я не паеду.

Мне што рабіць? Без яго ехаць ці не ехаць?

— Ты едзь, — зноў кажа. — А я тут застануся. Дык бяжы, каб доўга не чакалі.

І я бягу.

Вяртаюся праз нейкую гадзіну. Сыты, але разгублены: учора лазеньку не дапісаў, сёння — раллю не дапішу. А што стары? Стаю з талеркамі ў руках, трымаю прывезены яму абед, гляджу на яго палатно — дых займае: прастора, глыбіня, нішто, здаецца, у той прасторы ды глыбіні, якія перад ім, у прыродзе, не ўпусціў, усё заўважыў, схапіў дакладна, пераліў у квадрат палатна, усім бярозкам, хаткам і лазенькам знайшоў месца ў прасторы возера — на адным дыханні. Палатно вялізнае, а ўжо ўсё пакрытае фарбамі, і ўсё як быццам у тоне, дыхае, а пэндзаль лётае як лётаў, лёгка і вольна, над палатном, раскідваючы мазочкі па небе і па зямлі адразу. Быццам маэстра-піяніст трымае ўсе гукі-колеры ў абдымках самога твора, усю гаму. Мяне зноў пачуў:

— Пастаў талеркі і працуй. Дзень кароткі.

— Ешце, — кажу, — пакуль бульбачка цёплая.

А ён больш ні слова. Якая бульба, калі пэндзаль на самым узлёце? Які тут голад? Якая сытасць? Пра што размова?

Зноў дожджык пырснуў. Спалохаў і ацiх. Сонейка за хмары зачапілася і схавалася — ралля ссінела, бярозкі на магільным курганку пагаслі. Вецер шугануў з-за лесу, грымнуў у палатно, нібы ў бубен. Захістаўся эцюднік.

Пасыпаў дождж, хоць дробны, але спорны, грыбны. Не да грыбоў.

Антон Стафанавіч апусціў рукі:

— Я і парасон не ўзяў.

— У мяне ёсць чысты мех...

Ён накінуў мех на галаву і спрабаваў прадоўжыць работу, але дождж мацнеў, узняўся вецер, пачало заліваць палатно. Сцягнуў з галавы мех, накрыў ім палатно і ўзяўся складаць эцюднік. Дождж, як задаволены, што падмануў мастака, аціх. Але настрою да работы ўжо не стала, і стары падышоў да мяне.

Тут і сонейка выбліснула, ралля заружавела ў натуры, якраз у тым тоне, які я клаў у свой пейзаж. Чакаю — маэстра пахваліць? А ён пытаецца:

— Цень ад раллі ў цябе адкуль?

— Ад хлева.

— А дзе хлеў? Я хлеў не бачу. У натуры бачу, стаіць, добра стаіць, цень ад яго ляжыць, але на палатне хлява няма.

— Пейзаж светлы, сонечны, навошта хлеў?

Стары паморшчыўся, незадаволены.

— А за раллёю ў цябе што зялянее?

— А там рунь. Клін поля.

— А дзе ты рунь знайшоў? У натуры за раллёю быльнёг шэры.

— Шэрань і пісаць? Як мы сюды ехалі, я па дарозе бачыў рунь, прыгожа паднялася пасля дажджу. Яна мне спадабалася.

— Гэта там, дзе ехалі, а тут яна дзе? Жывапіс — не літаратура.— Памаўчалі. Ён пахваліў неба, узятае ў тоне, але адчуў, што я чакаю ад яго яшчэ штосьці, спытаў: — Чым адрозніваецца пісьменнік ад жывапісца? — І сам адказаў: — Пісьменнік піша тое, што думае, галавою, а мастак піша перш-наперш вокам, што бачыць. Калі вока нічога не бачыць, мастак нічога не напіша. Галавою пішаш тое, што галаве захочацца, у пісьменніка вока бачыць адно, а ён галавою піша другое, калі ў яго вока нічога не бачыць, ён і тады напіша. Галава і д'ябла можа зрабіць анёлам. А я, мастак, хіба магу з д'ябла пісаць анёла?

— А гэта палітыка, — кажу я.

— І мастацтва, — кажа ён. — Там і там — рэалізм.

Але ў жывапісе ён крыху іншы, як у літаратуры. Хоць, праўда, і жывапіс бывае ад галаўной хваробы. Натура адна, а праўды дзве. Выбірай такую, якая табе па душы. Я сваю выбраў. Яна ў мяне адна.

Ён, як мне падалося, хацеў спытаць, ці выбраў я сваю меру праўды, з дзвюх праўд — адну, калі сяджу за чыстым лістом паперы альбо стаю за эцюднікам. Гэтае яго пытанне я чуў і пазней, як ужо клаўся спаць, прыехаўшы з яшчэ аднаго пленэрнага дня, як ляжаў у ложку са шчымлівай на сэрцы радасцю ад пражытага напоўніцу дня. Было адчуванне, што там, на гары, на беразе возера, размову мы не закончылі, і ў новым дні, заўтра, яна прадоўжыцца.

Але нездарма ў народзе кажуць: "Наперад не загадвай". Наступнай раніцай Антон Стафанавіч паклікаў мяне да сябе ў пакой — на стале стаялі бутэлечка і чарачка. Я здзівіўся: такога з ім яшчэ не было, каб зранку. А ён сказаў, што чарачка развітальная.

Дзень, які мастак мужна выстаяў у Васільках пад халодным дажджом і пранізлівым восеньскім ветрам, закончыўся бядою — ноччу падскочыла тэмпература. Прыехалі дактары. Дыягназ быў не радасны: запаленне лёгкіх. Пад'ехала машына — ён вярнуўся ў Мінск.

Апошні пейзаж, недапісаны, якім закончыўся яго пленэр, ён з сабою не ўзяў. Сказаў, што дапіша, як вернецца.

У хвіліну развітання мне на вуха прашаптаў:

— Я не супраць руні, якую ты напісаў замест дзядоўніку. Але мы пішам не рунь і не дзядоўнік, а святло і колер, тон, якія вакол нас і ў нас. Тон, што быў на раллі, ляжаў і на тым самым дзядоўніку, на хляве, які ты абышоў, і не ляжаў на руні, якую ты бачыў з акна аўтобуса. І атрымалася, што ў тоне ты зманіў.

Без старога пленэр працягваўся, але страціў душу. Я гэта адчуваў. Адчуў і большае: у той дзень ён закончыўся для мяне.

Пакуль выстаўка Бархаткова адкрытая, я заглядаю на яе ледзь не кожнага дня. Карціны ды эцюды тут мне вядомыя па ранейшых выстаўках, па сустрэчах з мастаком у яго майстэрні, іншыя бачыў, калі яны яшчэ нараджаліся пад пэндзлем. Але даўно знаёмыя работы кож-

ны раз, як да іх падыдзеш, расказваюць пра мастака і штосьці новае, пра яго жыццё, вытокі творчасці, шляхі-дарогі, якімі шукаў свой мастацкі ідэал, вельмі, як мне здаецца, не блукаючы, бо трымаўся веры ў сваіх настаўнікаў-рэалістаў, пра душу лірыка, пра дзіўную, да самаахвярнасці, службу прыгажосці, пра шчодрасць і нерастрачанасць душы за доўгае жыццё. Тут бярэш урокі мудрасці: як працаваць і не спрацавацца, любіць і не пагаснуць, як на карысць любімай справе аберагчы душу ад крыўды, зайздрасці, хамства, хлусні. У знаёмых работах прачытваеш раней не заўважаныя думкі, пачуцці, настроі. Здзівішся, бывае: чаму раней не заўважаў? І супакоішся: так быць павінна — твор мастацтва, калі ён ад душы і да душы, здзіўляе-радуе заўсёды, калі б з ім ні сустрэўся, бо ён не на адзін дзень і кожны раз здаецца ў чымсьці новым, непрачытаным. Вось зноў стаю перад старой работай мастака, адной з яго найпершых: партрэт сястры на лаўцы ў вясковай хаце. Яшчэ такі нясмелы пэндзаль, тон шэры, блакітненькі, нясмелы колер — гэта ўсё і раней бачыў, як пачатак дарогі творчай. Але раней не адчуваў поўнай мерай тое, што мастака заўсёды, з першых работ, вылучала і ўзвышала, — душу і аўтара, і яго натуры — сястры. Якая глыбіня сялянскай сціпласці, высакароднасці чалавека працы, годнасці ды чысціні, непасрэднасці! Тут — і партрэт, і самапартрэт. Сястры і брата.

Мы ведаем Антона Бархаткова перш за ўсё як пейзажыста-лірыка. Але партрэты, напісаныя ім, як быў маладзейшы, сведчаць, што партрэтыст ён таксама ад Бога. А што душа павяла мастака пазней у чыстую прыроду, не трэба шкадаваць. Душа зрабіла выбар — яна тут гаспадыня. Можа, хтосьці і дапамог у выбары. Магчыма, любімы Біруля. Галоўнае, што душа не збегла на чужое поле. Яна ў яго была прыродная, вясковая, сялянская, і ў вёсцы засталася, хоць мастак потым і жыў у горадзе. Адсюль і мудрасць, і мараль, і пачуцці. Як тут: поле зімовае, пад снегам, бяроза ў полі — такая самаабмежаванасць і ў выбары натуры, і ў палітры. Усяго, здаецца, так мала, усё так проста, а якое багацце настрою, пачуцця! У прастаце малюнка, у натуры — і арганічнасць, і само жыццё. Так і чуеш голас Рэпіна да Бірулі аб праўдзе, прыгажосці ды свабодзе ў простым. Быў урок Рэпіна — Бірулю, быў

урок Бірулі — Бархаткову, цяпер Антон Стафанавіч дае ўрокі маладым: "Простае — сама праўда". Ісціна даўно вядомая? Але яе можна ведаць і не ўмець выказаць. Майстар паказвае, як гэта робіцца.

Позірк затрымліваецца і на куточку ўнізе пейзажа, дзе год, калі пейзаж напісаны: 1993. Іду далей, шукаю пейзажныя работы гадоў пазнейшых і апошніх. Мне цікава, што з гадамі прыбавілася, што ўбавілася ў набытках мастака. Параўноўваеш ранейшыя работы з пазнейшымі — бачыш: прыбавілася радасці ад прыроды, экспрэсіі, колер наліўся сонейкам, стаў больш адкрыты і глыбокі, акрэп і пасмялеў мазок, напоўніцу адкрыліся душа прыроды і душа мастака. А ў гады апошнія, самыя блізкія? "Запаліла свечкі восень", "Вялікая вада", "Бярозы над возерам", "Ветраны дзень", "Заход сонца", "Ранняя вясна". Напісанае зусім нядаўна, у мінулым годзе: "Зіма. Сонечны дзень", "Снежань". Апошняя работа — дзве рызыкоўна-паралельныя лініі, тры паралельныя плоскасці: зімовае, зацягнутае нібы ватовай коўдрай неба, снегам накрытае поле і паміж іх — прамень лесу, ссінела-халоднага, прысыпанага з палітры поля і з палітры неба. А ў лясочку плямы вохрыстага цяпла, таго, што з восені, ці таго, што ў вясновых мроях? Так усё проста, куды прасцей, але што ёсць прастата, яна ад майстэрства ці ад страты ахапіць складанае? Па Рэпіну і па Бірулю — ад таленту, майстэрства. А тут? Сілы, вядома, не тыя, што ў маладосці, але чаму, углядаючыся ў напісанае на дзевятым дзесятку лет-зім, няма адчування прытупленасці зроку і слыху, стомы, душэўнага спакою, супакаення зробленым? Што мастака ратуе ў гэтым узросце, каб маладым застацца ў пачуццях і ў палітры, без чаго які жывапіс? Як спытаеш?

Ратуе Ігар, малодшы з Бархатковых-мастакоў, сын Антона Стафанавіча, у жывапісе — бацькава надзея ды радасць. Мае пытанні, нават нявыказаныя ўголас, ён разумее:

— Бацькавы рука і сэрца — у пэндзлі. Пэндзаль — іх працяг. Жыве ён сэрцам і сэрцам працуе. Бачылі, як лётае над палатном ягоны пэндзаль? Ён адразу і там, ён і тут, усюды, адразу ахоплівае ўсю прастору — і што ў натуры, і што на палатне. Сэрца, толькі яно, здаецца, можа

адразу ўсё ахапіць. Але і пэндзаль, калі ён — яго працяг. А я гэтак не магу.

Ігар пазірае на бацьку з асцярогаю — слова няпраўды стары не сцерпіць. Той слухае — маўчыць: з сынам згодны. А ўсё ж у размову ўступае:

— Вока, калі пішаш, павінна лётаць, як птушка ў небе.

Параўнаць з птушкаю пэндзаль я магу, але не магу параўнаць з птушкаю вока старога, бо ягонае вока аднойчы бачыў у руцэ, на далоні. Гэта было пад Бялынічамі на беразе Друці — ён пісаў і быў так захоплены пейзажам у натуры і пейзажам на палатне, што не заўважыў, як я падышоў, спыніўся побач з ім. Я ў той момант заўважыў, як ненатуральна моцна, у сутаргах, заскакала пад векам яго вока, адчуў нешта нядобрае, але словам перасцярогі спыніць пэндзаль мастака не адважваўся. І тут вока раптам выкацілася з-пад века, скацілася па шчацэ ўніз — зеленавата-блішчастая на сонейку бобіна. Яшчэ я не паспеў зразумець, што адбылося, як мая рука інстынктыўна выкінулася ўперад, і ўжо вока ляжала ў мяне на далоні, глядзела буйной вільготнай зрэнкай у неба. Зніякавелы, я стаяў з ім на далоні, а стары працягваў пісаць пейзаж, як не адчуваў, што здарылася, і да таго, што здарылася, не меў ніякага дачынення. Паклаўшы на палатно чарговы, быццам апошні, мазочак, сунуў пэндзаль з правай рукі ў левую, якою трымаў палітру, узяў у мяне з далоні вока, пакачаў у пальцах, дзьмухнуў на яго, працёр, сунуў пад века, дзе яно быць павінна, і, усміхнуўшыся, сказаў: "Памятаеш, як ты прыходзіў да мяне ў бальніцу, калі я рыхтаваўся да аперацыі? Хацеў, каб паставілі штучны хрусталік, тады б я гэтым вокам бачыў, а хірург, жанчына, сказала, што фарбы з яго высмакталі ўсе сокі, трэба зусім выкідаць, мёртвае. І выкінула, выпісала шкляное. А тут пленэр. Як ехаць з адным вокам? Пайшоў у аптэку — няма майго памеру. Купіў якое было, меншае. Яно, што меншае, і падводзіць. Галавою рэзка крутнеш — і выкацілася. Шкло не вытрымлівае тэмпераменту мастака. Але я і адным вокам бачу ўсё, што трэба, самы тонкі нюанс любога колеру, лепш, як маладыя бачаць двума. Ніхто не здагадваецца, што пішу адным вокам. Ты бачыў — маўчы. А па жывапісе не відаць. Вітольд Каятанавіч

апошнія дзесяць гадоў таксама пісаў адным вокам і як пісаў! Фарбачка вока любіць — зацалоўвае да смерці".

Мы прайшлі ў апошнюю залу. Там стаяў столік, пры ім — два крэслы. Стары задумаўся.

— Гульню з сонечным праменьком мае вочы ўпадабалі з малых гадочкаў і ўжо восем дзесяткаў гуляюць — не нагуляюцца. Хлапчуком, бывала, разглядаю крылцы матылька ды дзіўлюся: "Хто,— думаю,— які дзіўны мастак іх распісаў, якім такім танюсенькім пэндзлікам? Кожная каляровая плямка то ярчэе, то затухае, мяняецца бясконца!" Страказу ўбачыш, жука звычайнага: вачэй не адвядзеш.

Усміхаецца. Цяпер ужо не мне — сваім успамінам. Кажа нібы для мяне, каб я нешта большае ў яго мастацтве і жыцці зразумеў, але і сам рады ўспомніць, як і што было.

— Што адтуль, з маленства, яшчэ помніцца? Як быў пастушком. Як пугу сплёў з лазовай скуркі ды сырамятных раменьчыкаў, доўгую-доўгую. Было свята — Тройца. Рабіць у гэты дзень грэх вялікі, бацькі не дазвалялі. А я ў кут зашыўся — пугу зрабіў. І мяне за гэта адлупцавалі. Ды што была тая лупцоўка, калі пуга свая адмысловая — свята хлапчуку. Тое пляценне пугі было, можа, маёй першай творчай працаю. Трымаў сваю пугу ў руках як які мастацкі твор і быў шчаслівы. Можа, тады ўва мне і мастак прачнуўся. І яшчэ адно абуджэнне душы памятаю. Пачыналі будаваць хату. Прывезлі з лесу бярвенне, скінулі на вуліцы. Дзядзька ўзяў вугаль, каб кожнае бервяно пamецiць, і панамаляваў на белых тарцах дзе дрэўца, дзе хатку, дзе птушку. Мяне гэта страшэнна ўразіла: на бервяне — малюнак! "Можа,— падумаў,— я гэтак змагу?" З печы вугалле выграб і пачаў маляваць. А далей — болей. Абы-чым і абы на чым. Вугалем, крэйдаю, цаглінаю, цвічком. На сценах дома, хлява, на якім кавалку паперы, на дошцы, на чарапочку, проста на зямлі. Што ні вымалюеш — сама рэч мяняецца, малюнак усё ажыўляе, усё мілым робіць. Гэтак я новы свет для сябе адкрыў і па ім пайшоў. І калі ў сваёй Шчыглоўцы пачаў хадзіць у школу, то маляванне зрабілася маім любімым заняткам. Што бачыў, тое і маляваў: рэчы ў хаце, жывёлу, дрэвы, поле, дарогу. З гэтай радасцю і ў Бялынкавічы

прыйшоў, у большую школу. А як было ўжо гадоў чатырнаццаць, падаўся ў лес, назбіраў чарніц, прадаў на чыгуначнай станцыі, а тут — цягнік спыніўся. Залез я ў вагон, схаваўся ад людзей і праз адну ноч апынуўся ў Маскве. Вялікі горад мяне аглушыў. На Бранскім вакзале заснуў пад лаўкаю — міліцыя падняла. Прывялі ў ЧК, дапытваюцца, хто ды адкуль, дзе бацькі, а я хлопец вясковы, хлусіць не навучаны, кажу як ёсць: "Бацька памёр". Тады мяне ў вагончык — дзіцячы прыёмнік. Я там адмыўся, ад'еўся, агледзеўся і ўцёк, а за мною астатнія хлопцы, хто быў у вагончыку, такія самыя бяздомнікі. Зноў злавілі і на перавыхаванне — у вайсковую часць. Апранулі ў форму, далі ў казарме ложак, зрабілі сынам палка і паслалі вучыцца. Скончыў рабфак — куды далей? Доўга не выбіраў — усё роўна як мяне і чакала мастацкае вучылішча імя рэвалюцыі 1905 года. А там — і Пятровічаў, і Крымаў. У іх я і вучыўся жывапісу.

З пачаткаў пачатак — вёска, родная Шчыглоўка. Сюды Антон Стафанавіч у апошнія гады збіраўся неаднойчы. І летась, і пазалетась. Была ахвота — не было здароўя, адчуў сябе няблага — не знайшоў машыны, падвярнулася машына — дзе той бензін? Усё не шанцавала. І нарэшце познім вечарам — тэлефонны званок:

— Праз дзень едзем у Шчыглоўку. Збірайся.

— А машына? — пытаюся.

— Усё ёсць.

— І здароўе?

— Даедзем.

Выехалі пагодлівай чэрвеньскай раніцай разам з вясёлымі сябрамі-паэтамі Алесем Пісьмянковым і Паўлам Вераб'ёвым. Павел — за рулём. Першы прыпынак — Бялынічы.

Усе чатырох мы едзем не проста ў Шчыглоўку, але на сваю радзіму, бо ўсе радзімічы: Антон Стафанавіч ды Алесь — з берагоў Бесядзі, якая ўпадае ў Сож, мы з Паўлам — з берагоў Сажа. Кожнаму з нас Бялынічы не купіна пры дарозе, не прыпынак на абед, на чарку ды скварку, а светлая брама ў сваё духоўнае поле. Каб гэта адчуць, трэба ўсяго толькі хоць пад'ехаць да мастацкага музея, пераступіць парог, завітаць — тут дух Бялыніцкага-Бірулі, паветра, якое ствараюць і ахоўваюць яго лірычныя, такія

высакародна цнатлівыя пейзажы. Стаіш перад імі, глядзіш і чуеш, як супакойваецца, нібы ў саборы, сэрца, ачышчаецца ад прадажнай будзённасці душа, святлее ў вачах, у думках. А выйдзеш з Бірулевай залы ў залу побач — прывецяць яшчэ і пейзажы Антона Стафанавіча, падораныя Бірулевым землякам, і сярод іх — “Бэз”. Настаўнік ды вучань і тут, у сваіх творах, не спрачаюцца, хоць Біруля — мякчэйшы і халаднейшы, Бархаткоў — больш экспрэсіўны і цяплейшы. Два згодныя берагі адной ракі.

А там, за брамай на Друці, дарога бяжыць далей.

Хай мне прабачаць Алесь ды Павел, што я не запынюся пакуль што на іх, ім дарагіх вёсках, на Рабавічах ды Бялынкавічах, на іх хатах, ды і на сваёй не запынюся, міма якой праехалі, калі вёрст дваццаць убок — не шлях, бо чую, як моцна хвалюецца побач сэрца старога.

Малая Крапіўна прамільгацела хатамі за вокнамі машыны.

— Стой, Павел! Тармазні!..

З машыны ён выйшаў першы. Стаіць на прыдарожным пясочку паміж дзвюх вёсак, Малой Крапіўнай і Шчыглоўкай, наўколле аглядае і маўчыць, нібы не пазнае мясціну. Але схамянуўся:

— Пазнаў. Цяпер тут поле, пры дарозе, а была дуброва, далей стаяў, як белая заслона, бярэзнік. Сюды, у дубы, я хлапчуком з сямі гадкоў ганяў на начлег коней з такімі, як сам, сябрамі. Коні ў дубах ходзяць, а мы вогнішча распалім, байкі травім. Іван, мужык з драўлянай нагою, да нас уначы прыходзіў. Пачне казаць жахлівыя гісторыі — душа ў пятках. Потым камандуе: “Ідзіце накапайце бульбы, будзем пячы, ды не капайце маю, капайце Васілёву, яго буйнейшая”. Ісці далёка па цемені — страхата, і накапаем не Васілёвай, а яго, Іванавай, якая бліжэйшая, прынясём — ён кажа: “Ну, бачыце, у Васіля буйная зарадзіла!” А назаўтра Іван грыміць да нас драўлянай нагою: “Суччыны дзеці, маю бульбачку пакапалі!..”

Як тут не ўспомніць і ягоных коней — напісаных і тых, жывых, што ў Васільках пад Бялынічамі хадзілі каля возера, як дождж імжыў і мы сядзелі ў аўтобусе, чакалі, калі ён сціхне, хто што казаў, хто драмаў, а ён усё пагляддаў за шыбку і замалёўваў аловачкам у сшытак коней, якія пасвіліся пад даждждом.

Шчыглоўка і зусім здзівіла. Дзе тыя хаты, што былі, дзе дубы, якія іх укрывалі густымі шатамі, дзе рэчка, што бегла пад родным плотам, пад самымі вокнамі, з масточкам праз вуліцу, які так міла палясквау сваімі бярвенцамі пад кожнай калымагай, — дзе ўсё гэта? Ад рэчкі ставок гнілой вады застаўся, лужына, па ёй толькі пазнаў сваю хату, якая гадавала — у крапіве, у дзядах, у быльнягу аж пад страху.Усе яе костачкі скрывіліся, аселі, парог і дзверы ў зямлю зарыліся, адно ў акно зазірнуў і нічога там не ўбачыў — яма чорная. Жанчына па дарозе ішла, спынілася, і пачаліся роспыты: хто мёртвы, хто жывы?

— А ты хто будзеш? — спытала, прыглядаючыся да ордэнскіх калодак на пінжаку старога. — Ці не Бархаток-партызан?.. Можа, Антон?..

Вось яна, радасць, — жанчына вясковая пазнала, усё роўна як сама вёска сваё дзіця прывеціла. Усміхнуўся Антон Стафанавіч — пайшла размова:

— А ў новай нашай хаце хто жыве?

— Каму ў ёй жыць? Ілля памёр. Васіль памёр.

Каля старой хаты пастаялі — пайшлі да новай. Сцежкі і да яе ўжо не было, пад варотцамі і пад ганкам — дзірван зялёны, здзічэў і сад, чарнобыль узняўся над зямлёю, павіс на голлі. А хата — звон. І нават прыбіральня цалюткая, з габляваных дошак, усё роўна як нядаўна пастаўленая. Зайшоў — у ёй і мухі не вядуцца. Якая радасць з гэтакай чысціні? Да шыбак у вокнах ілбы прыляпілі — і тут пуста, яма чорная. Стары павярнуў назад, за варотцамі спыніўся і як прырос да мурагу — ногі адсюль не ідуць. Як жа? Вайна скончылася, з партызанскага лесу выйшаў — дом гэты будаваў, каб у ім жыць, рукі да кожнага бервяна прыклаў. Гэтак атрымалася, што ад адной маткі — дзве сям'і, ад першага мужа і ад другога. А што ад дзвюх сем'яў засталося, хто застаўся?

— Хацеў я паказаць вам свой дуб магутны, за вёскаю стаяў, але не пакажу, і яго там ужо няма, — сказаў стары, нас раптам перад сабой убачыўшы, і голаў апусціў, як вінаваты ў страце.

Той дуб застаўся на яго карціне "Поўдзень на сенакосе", напісанай гадоў сорак назад і добра вядомай у нашым нацыянальным жывапісе. Красою сялянскай працы ў прыродзе, здаровай стомаю і спакойнай радасцю се-

ляніна, ачышчальнай для душы настраёвасцю самога паветра работа нагадвала мне карціны Пластава, мастака глыбока ўлюбёнага ў вёску і вясковага чалавека. Я даўно хацеў спытаць, дзе ён свой сенакос пісаў, з каго пісаў, як доўга, па якіх уражаннях, бо добра адчувалася, што і матыў, і сюжэт, і ўсё да дробязей у карціне для мастака сваё, у вёсцы пражытае неаднойчы, ніводнага мазочка прыдуманага. І тут раптам адчуў: няўжо той самы дуб, які на карціне, пад якім і сабраў усіх сваіх касцоў? І вось не вытрымаў, спытаў, ці так гэта — дуб той самы?

— Той самы, — сказаў Антон Стафанавіч, цяжка ўздыхнуўшы, і вочы заблішчэлі, нібы ад задаволенасці, што я ўспомніў яго карціну, напісаную з такой светлай да жыцця любоўю. — Дуб у вёсцы называлі Васілёвым, бо там, дзе дуб стаяў, жыў мой дзед Васіль. Пад дубам гналі з карчоў смалу. А потым спалілі. Падклалі бомбу і ўзарвалі. Асмалкі доўга гарэлі.

— А людзі, што пад дубам? Касцы? Жанчыны?

— І людзі свае. Там усё сваё, пражытае. Поўдзень, сонца смаліць, самая спякота, касцы абедаюць пад дубам у цянёчку, адпачываюць. Абед прынесла, раскладае жанчына маладая — Таня, мая сястра, у хусцінцы белай, у белай сукенцы, прысела каля касцоў. А з газетаю ляжыць, чытае, мой брат Ілля. А далей мужчына касу клепле пакуль абедаць, у саламяным капелюшы — брат Васіль. А яшчэ адзін мой брат Валодзя далей стаіць з касою. І астатнія дзяўчаты, хлопцы — нашы, вясковыя. Таму і карціна атрымалася, што ўсё ў ёй сваё, роднае, душой і сэрцам пражытае. Хоць, калі сказаць усё, як было, эцюды да карціны таксама ёсць, яшчэ раней я іх пісаў каля вёскі Углата пад Бабруйскам. Можна сказаць, што першая спроба знайсці да карціны сам матыў, святло і колеры, тон, гульню святла і ценю, стракатасць каляровых плям пад шатамі дуба ды і першая спроба кампазіцыі — адтуль, з-пад Углатаў, а ўжо сама карціна пісалася пад родным дубам.

На радзіме ўспамінаць тое, што было, прыемна, цяжка тое ўспамінаць, чаго ўжо няма і не будзе, тых, каго ніколі ўжо не ўбачыш. Але вёска яшчэ, хоць і апошнім дыхам, жыла. Ці даўно было за сто двароў, засталося — сем. Паміраіла, але жыла. Мы выйшлі на пратаптаную сцеж-

ку — да крамы. У краме ўзялі гарэлкі, каўбасы ды хлеба. Браў Антон Стафанавіч. Шчодра браў. Мы яму не перашкаджалі. Яго тут радзіма, яго быў дзень, яго вакол былі людзі. Было яго свята. Але задумаліся ўсе: дзе і з кім выпіць? Шчыглоўка — кут родны, але ж павінен быць у гэтым куце і стол, і нейкая лаўка, каб пасядзець за сталом, і блізкія мясцовыя людзі, каб усе і ўсё — па сэрцы і па душы. Стары ўспомніў братаву хату — падышлі да яе. На дзвярах вісеў замок. Паглядзелі за плот — чалавек абганяў бульбу. Нас заўважыў — каня на мяжу вывеў, лейцы прывязаў да плуга, падышоў. Дзядзька з пляменнікам абняліся, і той пайшоў па вёсцы шукаць яшчэ аднаго пляменніка.

Сабраліся на могільніку, як захацеў Антон Стафанавіч: дзе яшчэ знойдзеш гэтакі шырокі круг роднасці, як не тут? Пад тоўстымі сасновымі крыжамі ляжалі бацька, маці, айчым, таксама добры чалавек, браты. Антон Стафанавіч пра кожнага сказаў ласкавае слова, каб і ўсе мы хоць каліва пра іх ведалі. А нехта радок з песні ўспомніў: “Хацеў я выпіць за здароўе, а буду піць за ўпакой”. І гэты радок аказаўся да месца, не ў сэнсе, што ўсе смертныя, а ў сэнсе, як цяжка бачыць кананне вёскі, малой, кожнаму з нас, радзімы і вялікай — як сэрцу вытрываць.

Доўга і сумна развітваліся.

Па дарозе вяртання да пачатку нашага хуткаплыннага падарожжа яшчэ была сталіца гэтай самай малой і вялікай, для старога Антона і маладога Алеся, радзімы — Касцюковічы. І быў пры дарозе музей славы і хараства краю. Там мы спадзяваліся палячыць душы ды сэрцы каля карцін, якія Антон Стафанавіч падарыў землякам, кожная з якіх была не горшая за тую, якою ў Еўропе, ад нас няблізкай, захапляліся не бяднейшыя і не дурнейшыя за нас немцы Хармут і Сільвія. Але зроблены ад шчодрага сэрца дар мастака — аж за трыццаць работ — абарочваўся шыбеніцаю таму самаму сэрцу: карціны віселі на сценах змрочнага калідора адна ля адной, нібы людзі ў чарзе, зліваючыся ў нешта адно, святло і колер на іх пагаслі, і не глядзеліся ні “Белы бэз”, адзін з лепшых варыянтаў той самай, што ў Хармута і Сільвіі, карціны, ні “Ралля”, ні выдатны эцюд да вядомага “Сенакосу” пад

Васілёвым дубам, ні жывапіснейшы нацюрморт з баравікамі, якія былі напісаныя тут, у родных мясцінах мастака, на Бесядзі. Мы, разам з карцінамі, адчулі сябе прыніжанымі, падманутымі. Але найцяжэй было мастаку. Ён доўга маўчаў, збянтэжаны, пакуль не ўзарваўся, нібы вулкан, і тады прыціхлі, не стаўшы апраўдвацца, спалоханыя музейныя дзяўчаты, пачалі разбягацца па пакоях. Стары ўсё мацней грукаў кіем у падлогу, абураны.

Я выйшаў на вуліцу. Праз колькі хвілін выйшаў і ён. Спачатку я ўбачыў карціну — асветленыя чырванню сонечнага святла сосны,— вялікую памерам, як яна выплывала з дзвярэй музея, а потым, пад ёю, убачыў ногі мастака. Карціна апусцілася на тратуар — за ёю стаяў Антон Стафанавіч. Рукі на раме дрыжэлі, твар быў белы, вочы ўсхвалявана блішчэлі.

— Дзе машына? Дзе машына? — дапытваўся ён невядома ў каго, бо нікога каля яго не было.

Наш "жыгуль" стаяў непадалёку. Антон Стафанавіч стараўся ўпіхнуць карціну ў машыну, але карціна была большая за дзверцы, не праходзіла. Ён зайшоў з ёю з другога боку, быццам там дзверцы павінны быць большыя, але і там яны не пускалі карціну ў салон. Тады стары пачаў усцягваць яе на машыну, але там, наверсе, ёй не было за што зачапіцца — ні багажніка, ні хоць бы нейкай прылады ці вяроўкі.

— Не, сосны я ім не пакіну! Тут няма святла! Яны мёртвыя ў цемені!..

Але голас слабеў, рукі з карцінаю апускаліся ўсё ніжэй. Ён ужо адчуў сваю бездапаможнасць, разумеючы, што і забраць з сабою любімую карціну не зможа.

У Мінск мы вярталіся без таго светлага настрою, з якім ехалі ў Шчыглоўку. Прамень надзеі на лепшы, варты таленту жывапісца, лёс твораў на дарагой сэрцу мастака бацькаўшчыне нас, праўда, не пакідаў. Перад самым ад'ездам з Касцюковіч мы сустрэліся з Васілём Рыгоравічам Мар'евым, намеснікам старшыні райвыканкама, па адукацыі і былой рабоце настаўнікам, гісторыкам, і той выказаў думку, каб адкрыць карцінную галерэю пейзажаў Бархаткова ў Бялынкавічах, дзе і будынак для галерэі ёсць — былая школа, у якой вучыўся Антон Стафанавіч. Ідэя нас грэла. Але мы ведалі сваю краіну, ведалі,

як часта ў ёй разыходзяцца светлыя ідэі з рэальнасцю, як цяжка апошнім часам рэалізаваць добрыя патрыятычныя задумы, асабліва ў культуры, літаратуры, мастацтве. І хоць былі надзеі, быў акрамя іх яшчэ і неспакой за лёс цудоўных карцін жывапісца на яго радзіме.

Пераехаўшы Сож, у Чэрыкаве, я развітаўся з сябрамі. Яны паехалі далей, а я застаўся, каб колькі дзён пабыць і на сваёй радзіме. Ішоў па вуліцы да хаты брата і бачыў з тымі соснамі чырвонымі ў абдымках Антона Стафанавіча. Не быў ён злосным. Не быў і сумным. Ён мне ўсміхаўся, калі развітваліся. Душою і тварам быў такі, як яго сонечныя сосны. І я падумаў пра тое, якая мужнасць трэба ў нас мастаку, каб пражыць жыццё ў мастацтве і мастаком застацца, каб і ў старасці пісаць светла, пісаць душою, жыццём зачараванай.

Учора ён мне патэлефанаваў і сказаў:

— Прыехаў з вёскі. Шмат працаваў, шмат напісаў. Як-небудзь загляні, паглядзіш мае новыя работы.

Яго голас прымусіў мяне спытаць:

— Як здароўе?

— Ляжу. Чакаю дактароў. Зноў мяне колюць.

— Зноў не ўсцерагліся?

— Ды... Дзень быў у полі, пісаў, стаміўся, ішоў дадому — не дайшоў, завярнуў у хлеў, каб там прылегчы, і ноч у хляве праспаў. А хлеў дзіравы.

— Ну вось вам і пленэр. А я праз тыдзень еду на Друць, на пленэр Вітольда Каятанавіча.

Ён раптам загаварыў бадзёра:

— І я паеду. У мяне з леташняга пленэру незакончаная работа. Памятаеш, як мы ў Васільках пісалі? Над возерам, на гары. Мы з табою яшчэ на тую гару падымемся — я і дапішу пейзажык.

Я доўга маўчаў у тэлефонную трубку. Было мне што сказаць — толькі падумаў: “Дай Бог табе, стары, здароўя і сілы...”

І сказаў:

— Падымемся. На горку ў Васільках — абавязкова.